www.nv-online.info

№ 38 (3983)

19 мая 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

РЕПЛИКА

## Злая волшебница

**Три новых тезиса от главы Центризбиркома Лидии Ермошиной, высказанных на прошлой неделе на заседании ЦИК.**

**Первый. Хотя результат выборов предсказуем, их надо проводить.**

**Второй. Прозрачные урны для голосования желательны. Если их обеспечат богатые люди.**

**Третий. Женщина – тоже человек. Глава Центризбиркома верит, что в перспективе президентом Беларуси будет женщина.**

**Тезисы Л.Ермошиной, которая на протяжении двадцати лет проводит выборы, результаты которых каждый раз не признаются цивилизованным миром, вызывают смех у ученых и недоумение у избирателей. Лидия Ермошина наконец «дозрела» до ментальной революции.**

**Раньше она говорила, что дело женщины – варить борщ. Что наши выборы такие же конкурентные и непредсказуемые, как и во всем мире. Ну и, наконец, что прозрачные урны для голосования – это маловажное излишество. Теперь мы слышим другие речи. Но не радуемся.**

**Потому что прозрачные урны для голосования – это, конечно, может оказаться излишеством. Если в сути выборов ничего не поменяется.**

**Разве не лично один из потенциальных кандидатов в президенты назначил Ермошину на занимаемую должность, и не она ли публично призналась в верной службе ему?**

**Разве есть в составе Центризбиркома персоны, которые способны обеспечить главный принцип демократичных выборов – принцип «равенства кандидатов»? У нас ведь один красуется на телеэкранах часами, а другие – по нескольку минут в записи, да и то если не будет претензий у «цензоров». Один встречается с многотысячными трудовыми коллективами, для других – пропускной режим и закрытые проходные…**

**Разве есть в составе «избирательной вертикали» хоть одна комиссия, которую возглавляет представитель оппозиционной партии? Разве входят у нас в избирательные комиссии представители кандидатов, которые могли бы проконтролировать их действия?**

**Разве случался когда-нибудь прецедент, чтобы кандидат (член его избирательного штаба, наблюдатель, избиратель) заявил, что итоги подсчета голосов сфальсифицированы, а избирательная комиссия уличила его во лжи, публично и открыто пересчитав бюллетени?**

**Разве кто-нибудь когда-нибудь был наказан за случаи, когда людей, как стадо, гнали на досрочное голосование?**

**Разве когда-нибудь проводился эксперимент, могут ли (хотя бы даже теоретически) 226 избирателей из разных квартир проголосовать за два часа, то есть со скоростью два человека в минуту?.. (Напомним, что рекорд скорости был поставлен в Витебске, и об этом широко писалось…)**

**Так зачем нам при таких выборах прозрачные урны для голосования? Зачем нам вообще урны для голосования?**

**Да, результат кампании предсказуем. В таких выборах не сможет победить ни женщина, ни умнейший из умнейших Нобелевских лауреатов, ни даже сам Иисус Христос. Но надо понимать, что триумф Ермошиной, которая на своем посту творит настоящие чудеса, это, может быть, главная трагедия нашей страны. Главная ее ловушка…**

**Елена НОВИКОВА.**

ШОУ-БІЗНЕС



## Бітва за фінал

***Сёння, 19 мая, беларускі дуэт Юзары і Маймуна пазмагаецца за права спець у фінале Міжнароднага конкурсу песні "Еўрабачанне". Артысты выйдуць на сцэну пад нумарам 11 з песняй «Time».***

*«Песня «Time» – пра час*, – тлумачаць Юзары і Маймуна. – *Пра тое, што з кожным годам тэмп жыцця паскараецца і трэба паспець зрабіць усё больш. Адпушчаны час трэба прымусіць працаваць на нас!»*

*«Мы з Юзары адрозніваемся ад еўрапейскага ўяўлення пра беларусаў*, – дадае Маймуна. – *Мы цёмнавалосыя і не блакітнавокія – асабліва я! Але ў Беларусі шмат розных людзей: і вонкава, і па светаўспрыманні. У нас дружная шматнацыянальная краіна!»*

Беларускі дуэт выйшаў у лідары рэйтынгу самых прыгожых удзельнікаў «Еўрабачання» гэтага года. А вось шанцы беларусаў на перамогу і нават выхад у фінал музычныя эксперты ацэньваюць як значна больш сціплыя.

Беларускае тэлебачанне ў 22 гадзіны распачне прамую тэлетрансляцыю конкурсу. Каментаваць шоу будзе тэлевядучы Яўген Перлін, аб'яўляць балы – беларускі фіналіст леташняга «Еўрабачання» Тэа.

Фінал «Еўрабачання» адбудзецца 23 мая.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

РЭАЛІІ

## Чаму здаваць у арэнду гандлёвыя плошчы больш выгадна, чым самому займацца гандлем?

***Учора ў Мінску прадпрымальнікі зноў сабраліся на форум і паспрабавалі данесці да ўлады свае праблемы. Пакуль, праўда, атрымліваецца размова сляпога з глухім – улада на заклікі дробнага бізнесу рэагуе па-свойму. Між тым сітуацыя блізкая да крытычнай.***

Айчынныя прадпрымальнікі ў масавым парадку зачыняюць уласныя гандлёвыя кропкі. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова зайсці ў любы гандлёвы цэнтр. Раней тут віравала жыццё, а цяпер – "сляпыя" прасторы з зацягнутымі ралетамі. Людзі гавораць, што займацца прыватным бізнесам у Беларусі робіцца ўсё больш складана і ўсё менш выгадна... І часам, распавядаючы пра сваё жыццё, ужо не знаходзяць цэнзурных слоў.

Нагадаем, што дробны прыватны бізнес апынуўся на мяжы вымірання пасля таго, як беларускія ўлады вырашылі, што індывідуальныя прадпрымальнікі – плацельшчыкі адзінага падатку ў абавязковым парадку павінны мець суправаджальныя дакументы на ўсе тавары. Адпаведны ўказ №222 "Аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі" нарабіў шмат панікі: многія гандляры закупалі тавар, напрыклад, на расійскіх аптовых складах, дзе ніякіх дакументаў проста не выдаюць. У выніку ў беларускіх іпэшнікаў назапасілася шмат несертыфікаванага тавару.

Планавалася, што з сакавіка бягучага года гандляваць несертыфікаваным таварам у Беларусі будзе забаронена, аднак у апошні момант беларуская ўлада пайшла на некаторыя саступкі і гандляры атрымалі так званую адтэрміноўку. Указ Аляксандра Лукашэнкі запрацуе на поўную моц з 1 студзеня наступнага года. Да гэтага часу прадпрымальнікі павінны альбо распрадаць несертыфікаваныя тавары, альбо пакінуць іх сабе на памяць... Але ж да студзеня яшчэ ёсць час. Чаму гандлёвыя кропкі пазачыняліся ўжо зараз?

Карэспандэнт "Народнай Волі" наведаў адзін з самых вядомых гандлёвых цэнтраў Мінска – "Зеркало". Напалову, калі не болей, комплекс не працуе. Ля спушчаных ралетаў можна ўбачыць аб'явы наступнага зместу: "Павільён здаецца ў арэнду". Спісаўшы з паўтара дзясятка тэлефонных нумароў, я вырашыў патэлефанаваць гаспадарам павільёнаў з простым пытаннем: "Чаму самі адмовіліся працаваць і здаяце гандлёвую кропку?"

"Кошт арэнды дзевяціметровага павільёна – пяць мільёнаў рублёў, – паведаміў першы суразмоўца. – Здаю, бо сам не магу больш працаваць у такіх умовах..."

Па наступным тэлефоне адказала жанчына, якая аказалася больш гаваркой: "Сама я на пенсіі. Маю ва ўласнасці два павільёны ў гандлёвым цэнтры "Зеркало". Адзін, агульнай плошчай дзевяць метраў, магу здаць вам за 150 долараў у месяц. Зімой сума будзе 200 умоўных адзінак, а большы павільён вы можаце арандаваць за 350 долараў. Чаму здаю іх у арэнду? Патлумачу проста: калі пасля аплаты ўсіх падаткаў і арэнды прыбытак ад бізнесу маю меншы, чым мая пенсія, дык навошта такі бізнес?"

Трэці прадпрымальнік, да якога ўдалося дазваніцца, патлумачыў: "Зараз дробным бізнесам займаюцца толькі адчайныя людзі, якім няма куды дзецца. Я здаю свой павільён, таму што стаміўся. Стаміўся ад непрадказальнасці: жывеш і не ведаеш, чаго чакаць. Што будзе заўтра? Які новы ўказ прымуць? Прадпрымальнікаў і так абклалі з усіх бакоў. Карацей, здаваць у арэнду гандлёвыя плошчы зараз больш выгадна, чым самому займацца гандлем..."

Ну што тут скажаш? Усё, здаецца, зразумела і без каментарыяў... Толькі хто выйграе ад таго, што дробны бізнес у нашай краіне можа спыніць сваё існаванне?

Праўда, узнікае і другое пытанне. А ці не пераацэньваюць сябе некаторыя прадпрымальнікі? Так, былі часы, калі можна было ўвачавідкі абагаціцца. Але ж гэта не значыць, што рэнтабельнасць іх работы павінна і надалей заставацца такой высокай. Вунь на тым жа Захадзе калі яна дасягае 8–10 працэнтаў, то гэта лічыцца вельмі прыемным вынікам. Нашым жа хочацца "ўсё і адразу".

Так што хто мае большую рацыю – беларускія бізнесмены ці ўлада – пакажа час.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

НАДВОР'Е

## Подых лета

У аўторак 19 мая пераважна без ападкаў. Паўночныя вятры памяняюцца на паўднёвыя, і да нас пачне паступаць цёплае паветра. Максімальная тэмпература днём +15...+21°C, а па паўднёвым захадзе ўжо да +24°C.

У сераду 20 мая стане яшчэ цяплей. Надвор'е па паўднёвым усходзе краіны будзе вызначаць поле павышанага ціску, а па паўночным захадзе і ў цэнтральных раёнах – атмасферныя франты, па іх перыферыі ў Беларусь будзе паступаць паветра з Міжземнага мора. У сераду ноччу па паўночным захадзе, а днём і ў цэнтральных раёнах кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +6...+13°C, па паўднёвым захадзе да +15°C; максімальная днём +21...+28°C (па паўночным захадзе будзе халадней – +17...+20°C).

У чацвер 21 мая ў паўночна-заходніх і цэнтральных раёнах кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +10...+17°C, максімальная днём ад +14°C па паўночным захадзе да +29°C па паўднёвым усходзе.

Цёпла будзе і на выхадныя. Дачакаліся...

СІТУАЦЫЯ

## У Магілёве пяць жыхароў выселенага дома пачалі галадоўку



Гэта жыхары дома №59 па вуліцы Ленінскай. Да крайняй меры, як кажуць, іх падвяла бяздзейнасць і абыякавасць чыноўнікаў да іх праблемы. Перапіска з дзяржструктурамі цягнулася больш за год, аднак так і не дала ніякага выніку.

Пра пачатак галадоўкі магілёўцы пісьмова паведамілі ў Магілёўскі гарвыканкам, аблвыканкам, пракуратуру Магілёўскай вобласці, Генеральную пракуратуру і Адміністрацыю прэзідэнта.

На пачатку 2014 года з дома №59, дзе пражылі чатыры пакаленні грамадзян, усіх жыхароў экстранна перасялілі ў інтэрнат будаўнічага трэста №12. Дом, у якім яны жылі, спецыяльная камісія пры гарвыканкаме прызнала аварыйным.

Жыхары выселенага дома падкрэсліваюць, што ў 1960–1970-х гадах яны атрымалі ордэры на кватэры. У 2007 годзе будаўнічы трэст №12 шукаў інвестараў, каб выдзеліць ім новыя кватэры. Аднак у 2009 годзе падчас судовага пасяджэння раптам стала вядома, што дом не з'яўляецца домам, а мае статус інтэрната. Тады чыноўнікі проста хацелі выкінуць грамадзян на вуліцу, аднак яны адстаялі свае права на пражыванне ў доме.

У 2015 годзе чыноўнікі давалі адказы, што дом №59 ад самага пачатку быў інтэрнатам. Аднак усе іх адказы спасылаюцца на дакументы, якія адносяцца да дома №61, што некалі стаяў побач і меў статус інтэрната. Цяпер на месцы таго дома знаходзіцца ліцэй Беларуска-расійскага ўніверсітэта. А тэхпашпарт дома №59 па вуліцы Ленінскай загадкава знік.

Нагадаем, што ў Гомелі падобная гісторыя нядаўна скончылася трагічна. У «выкладчыцкім доме», які перавялі ў статус інтэрната, павесілася адна з жыхарак.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Як хакеісты і трэнеры адрэагавалі на крытыку Лукашэнкі?



**Яўген Кавыршын, нападаючы зборнай:**

– Крытыка з боку прэзідэнта? Асабіста мяне яна не засмучае.



**Андрэй Стась, нападаючы зборнай:**

– Згодны, што апошнюю гульню "змазалі". Але кіраўнік федэрацыі Ігар Анатольевіч Рачкоўскі павіншаваў усіх, сказаў, што ўсё цудоўна.



**Кевін Лаланд, варатар зборнай:**

– Усё ж такі канадскі вопыт быў вельмі прыніжальны. Дзякуй за магчымасць ізноў прадстаўляць Беларусь.



**Андрэй Скабелка, былы ігрок зборнай Беларусі, галоўны трэнер новасібірскай "Сибири":**

– Каманда самааддана змагалася і стабільна правяла ўвесь турнір. А што тычыцца двух матчаў з расіянамі і канадцамі, то гульня не пайшла, не так ужо і страшна. Так ужо выйшла...



**Андрэй Гусаў, галоўны трэнер ХК "Шахцёр" (Салігорск):**

– Калі прэзідэнт крытыкуе, я не магу яму пярэчыць. Кожны чалавек, як балельшчык, дае сваю ацэнку выступленню любімай каманды. Напрыклад, мая ацэнка – задачу выканалі. Патрапілі ў васьмёрку мацнейшых, паказвалі прыстойны ўзровень... А, калі казаць пра пройгрышы зборным Расіі і Канады, то давайце шчыра прызнаемся: там зусім іншы ўзровень.



**Алег Антоненка, памочнік галоўнага трэнера зборнай Беларусі:**

– Я задаволены выступленнем каманды, мала хто можа кінуць камень у наш агарод. І прайгралі з буйным лікам толькі фіналістам першынства. А зборная Канады, якая "вынесла" ў фінале расійскіх "зорак" з лікам 6:1, і наогул сёння паказвае хакей, як быццам з іншай планеты. Пры ўдалым для канадцаў раскладзе там наогул магло быць і 9:1, і 11:1. Так што асабіста я перад нашымі хлопцамі проста здымаю капялюш...



**Аляксей Калюжны, капітан каманды:**

– Лукашэнка назваў паражэнні ганьбай? Ну, гэта хто як глядзіць...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Працяг хакейнай тэмы чытайце на 8-й старонцы.*

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Не поговорили

Если честно, я не могу понять смысл визита Александра Лукашенко на Минский тракторный. Разве только – чтобы прибрали завод: отмыли, подкрасили, обновили асфальт, распихали непроданную технику по углам и закоулкам...

Ну что ему могли сказать рабочие, если глава государства сам предупредил: «Держитесь за работу»? Скажешь – уволят. Значит, лучше молчать.

Что мог сказать генеральный директор Федор Доматенко? Наоборот, он из штанов выпрыгивал, чтобы все представить в лучшем виде. И не удивительно. Гендиректор – самое что ни на есть заинтересованное лицо, чтобы какой-то серьезный негатив не выплыл наружу.

Может, вице-премьер Владимир Семашко в порыве откровенности мог признать, что 13 лет руководит белорусской промышленностью, но от этого руководства ситуация только хуже и хуже? Или бывший министр экономики, теперь – главный куратор экономического блока в Администрации президента Николай Снопков вдруг признался бы, что не очень ориентируется в проблемах реального сектора, потому что по большому счету никогда в нем не работал?..

А с остальных сопровождающих какой спрос – они люди новые.

Между тем в стране есть кому объяснить происходящее главе государства. Например, бывший помощник президента Сергей Ткачев сейчас возглавляет «Амкодор». Когда занимал кабинет в Администрации президента – направо и налево шашкой махал, аналитические записки строчил, доводил задания и выносил вердикты. Даже когда на «Амкодор» пришел, то был чинный-важный, недоступный и загадочный. Однако спустила жизнь с руководящих небес, приземлила. На последнем собрании акционеров перед присутствующими предстал другой человек. Исчезли и гонор, и важность, и чрезмерная уверенность. Сдулся. Теперь, как и все, признает, все дело плохо, что денег нет, а вот проблемы, наоборот, есть, и очень серьезные.

И действительно, кто смотрел последние обнародованные Минфином данные о доходах белорусских ОАО, тот видел, что «Амкодор» – в убытках. Как, впрочем, и МАЗ, и БелАЗ, и МТЗ. Однако тот же Федор Доматенко никогда не писал президенту проекты указов в сфере экономики, никогда ничего не советовал. А вот Ткачев и писал, и советовал. Только теперь сам в таких условиях работать не может.

Разве не интересным мог бы получиться разговор?

Был в стране еще один руководящий кадр, которого отправили «колхозы поднимать». А тракторы и колхозы – это ведь прямая связь.

Помните председателя Гродненского облисполкома Владимира Савченко? Есть разные версии насчет того, в чем он провинился, но факт фактом: в итоге он был направлен «поднимать село». Правда, за отсталые хозяйства родной Гродненской области, которой руководил девять лет, Савченко не взялся. Переехал поближе к столице в успешный агрокомбинат, принадлежащий Управлению делами президента. Разве не полезно было бы призвать Савченко на МТЗ и спросить напрямую, почему в области, которую знал, как родную спальню, не взялся за создание хозяйства, которое не стояло бы с протянутой рукой, а само смогло бы заработать деньги и на трактора, и на сеялки, и на зарплаты, и на бензин, и на детские садики?.. Ведь в честном ответе на этот вопрос, возможно, кроется секрет успеха того же МТЗ, да и многих других предприятий.

На Тракторном Александр Лукашенко вновь говорил о модернизации. Вице-премьера Владимира Семашко в этот момент не показали, а вот глава правительства Андрей Кобяков, как мне показалось, встретил эти слова просто гримасой боли. Но кто лучше расскажет о подводных камнях модернизации, как не бывший директор «Борисовдрева» Владимир Мальцев. Человек ничего не украл, взяток не нахапал, дневал и ночевал на работе, работал практически без выходных, выполнял все «высшие указания». Но даже это ему вменили в вину: мол, «действовал из карьерных соображений». И посадили. В то же время главный куратор всего, что происходило на «Борисовдреве», – вице-премьер Владимир Семашко – даже на суд не пришел. Он очень занят, он, как и раньше, много чего курирует. Тот же МТЗ, к примеру. В общем, боязно за завод.

На прощание Александр Лукашенко пожелал успехов трудовому коллективу МТЗ и руководству завода. Только доброе ли это пожелание? Ведь насчет опасности быть успешным в Беларуси тоже есть с кем поговорить.

Их посадили почти одновременно – двух членов Совета Республики, двух сенаторов: директора Витебской бройлерной птицефабрики Анну Шарейко и директора могилевского ЗАО «Политекс» Виталия Костогорова. Предприятие Костогорова оказалось банкротом. При этом он нашел несколько сотен тысяч евро для того, чтобы «откупиться» от уголовного дела, и был отпущен. А вот Анне Шарейко не посчастливилось – она создала действительно успешную, одну из лучших и самых прибыльных в стране птицефабрик. Но сотен тысяч евро «на откуп» она не нашла. Сидит. Государство отблагодарило.

Кажется, Анне Шарейко с Александром Лукашенко тоже есть о чем поговорить. И интересный бы разговор получился. Многочасовой. Важный.

ПАЗІЦЫЯ

## Тактыка нумар тры

Аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» не будзе вылучаць свайго кандыдата на прэзідэнцкую кампанію 2015 года і таксама не будзе падтрымліваць непасрэдна ніводнага з кандыдатаў.

Разам з тым БХД гатова да супрацоўніцтва з дэмакратычнымі кандыдатамі, блізкімі па пазіцыях, поглядах і каштоўнасцях да беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў. Такое рашэнне на сваім пасяджэнні прыняла Нацыянальная рада аргкамітэта па стварэнні партыі.

*«У Беларусі не толькі няма свабодных і справядлівых выбараў,* – паведамляе прэс-служба БХД. *–20 год улада практычна робіць немагчымай працу незалежных прафсаюзаў, знішчана незалежная судовая сістэма, асноўным аб'ектам, на які накіраваны прыгнёт улады, становіцца не апазіцыя, а беларускі народ. Прыняцце апошніх антынародных законаў (падатак «на дармаедства", ціск на прадпрымальнікаў, працоўных) – таму яскравыя прыклады.*

*БХД правядзе кампанію падтрымкі Міколы Статкевіча і іншых палітвязняў, а таксама масавы збор подпісаў і прэзентацыю праграмнай альтэрнатывы «Урад для народа»,* – падкрэсліў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні БХД Павел Севярынец.

Такім чынам, мы маем трэцюю тактыку на будучыя прэзідэнцкія выбары. Нагадаем, што шэраг структур заявілі пра свой удзел у выбарах –напрыклад, Аб'яднаная грамадзянская партыя, кампанія "Гавары праўду!", Сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Партыя БНФ і іншыя. Некаторыя будуць браць удзел толькі ў назіранні за выбарамі (рух "За свабоду!"). І вось трэці прапанаваны сцэнарый.

**Алег СНОЎ.**

ПУЛЬС

## Новы падыход

На валютным рынку Беларусі спеюць сур'ёзныя перамены. У бліжэйшыя тыдні краіна пяройдзе на іншы механізм курсаўтварэння.

Паводле інфармацыі БелаПАН, у сувязі з гэтым ужо адбыліся трэніровачныя валютныя таргі. У рамках новага механізму банкам прыйдзецца "лавіць" лепшы курс абмену валют для прадпрыемстваў. Мяркуецца, што афіцыйна новы рэжым курсаўтварэння запрацуе 1 чэрвеня. Прычым плануецца, што таргі ў рамках бесперапыннага падвойнага аўкцыёну будуць доўжыцца толькі адну гадзіну, а не ўвесь дзень, як меркавалі многія. Паводле вынікаў таргоў, якія будуць праходзіць у працоўныя дні з 11 да 12 гадзін, будуць вызначацца афіцыйныя курсы замежных валют.

